# БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:
**Серпухоуская вул. д. № 12**

Рэдакцыя адчынена ад 1 до 2 гадз. пасьля поудня.
Адміністрацыя—зрана ад 10 да 2 гадз. У вечары ад 5 да 7 гадз.

Рэдакцыя пакідае за сабой права папрауляць пер сыланые рукапісы і карэспондэнцыі.

**Цана асобн. нум. 15 К.**

Падпіска: з дастаукай да дому у Міпску на 1 месяц 3 рублі.

Цана абвестак: за верш пэтыту на 1-й стран. 1 руб на апошняй—50 кап.

Штодзенная грамадзка-палітычная газэта.

№ 48. Менск. Чацьвер 23 мая 1918 г. Год I


## *Менск 23/г.*

Менскае Губэрнскае Земскае сабранне, папало пад каманду «Земгусарскіх арлоу», зляцеушыхся «на фронт» з усіх куткоу быушай Расійскай Імпэрыі.

Армія і земсаюз памагалі нам выбіраць земство; земство выбрано па «чатырохвостцэ», але пятым хвастом пры гэтым былі «таварышы» з Рязані і Ніжняго.

Крыстальна-чыстыя эс-эры і эс-дэкі, абрусіцелі, папрыстраіваліся у вялікія чыноунікі у управах і думах; яны наследнікі сталыпінскай нацыянальнай рускай ідэі' ідэолоргі зьбірання «всея Русі» пад Маскву.

20 мая пад іх ідэйным уплывам пяціхвостнае земскае сабранне прыняло туманную рэзалюцыю аб ніпрызнанні Беларускай Рады, як самазванай, каторая пайшла проціу праграмы Усебеларускаго конгрэсу студзеня 1917 г., каторая ні есць голас Беларусі, а такім голасам, пакуль ні зьбярэцца белар. сойм, можа быць зьезд гарацкіх і земскіх самаупрауленияу усей Беларусі. У рэзалюцыі конкрэтна ні сказана за што імення кіраунікі земства так узлаваліся на Беларускую Раду. Німа ні слова!

**Масква—Бэрлін.**

Тутэйшыя палітыкі дагадываюцца:—гэта барацьба двух напрамкоу Масква і Бэрлін.

Беларуская Рада лічыць, што цяпер Беларусь фактычна і юрыдычна нізвязана ні з якім гасударствам, яна нізалежна, у ніякія дагаворы і абавязкі ні уступала.

На Берэсцейскіх мірных перэгаворах расійскія цэнтралісты большэвікі яе прадалі, яе дзержауныя і нацыянальныя інтарэсы ігнаравалі, Усебеларускі конгрэс, каторы сабрауся для ратавання Бацькаушчыны, разагналі, гэта усе было зроблено, як нагрода за разарэнне краю 600-верстным фронтам на працягу двух гадоу і усе ахвяры беларусау.

Калі апірацца у палітыцэ дня толькі на пастановы зьездау, то можна завясьці Беларусь у яму, а адказныя кіраунікі беларускай нацыянальнай ідэі дачэкаліся бы праклянцця і ганьбы другого Усебеларускаго конгрэсу. Конгрэс пакінуу пасьля сябе Раду, каторай даручыу у патрэбны момэнт узяць усе абавязкі ураду які пры цяперашніх варунках, перавярнуушых усе да гары нагамі, павінен кіравацца сягоняшнім палітычным момэнтам у сваіх пастановах.

Конгрэс ні мог быць аракулам. Палітыка жывая справа, а ні рэзалюцыя

Рада для зацьверджэння Нізалежнай Дзержавы апіраецца на Заходнія Дзержавы, гэта ні выключаець згоды і з другімі суседнімі дзержавамі.

Беларускія дзеячы прымаюць на сябе вялікі адказ прад народам, яны гэта разумеюць у поунай меры і робяць тое, што дыктуе ім розум і каханне Беларусі. Яны нікуды ні уцякуць і ні ухіляцца ад адказу перад сваім народам.

Ніхай помняць гэта «гастролеры» з ідэйных земгусарау.

## Агульныя вестки.

БЭРЛІН 18 гм, Подлуг вестак за апошнюю пору (суткі) нямецкімі падводнымі лодкамі затоплены ангельскія і французскія параходы, уемнасьцю 21.000 тонн.

(«Zeit 10 Armee № 574»)

Увяг. рэд.: тонна (бочка)—дваякая мера: ваговая раунуецца 1000 кілограмм., альбо 2400 фунтам т. е. 60 пудоу. Перэвозкі па жалезніцам вылічаюцца па ваговым тоннам. Мэтрычная тонна раунуецца 100 кубічным стопам—ці 2,83 мэтрам. Гэтай мерай азначаецца уемнасьць параходау).

РЫГА 18 гм. Нямецкае войско у Ліфляндзіі і Курляндзіі дастае усе свае харчы з Нямеччыны. На мейсцу ні рэквізовано ні воднаго пуда мукі, зерна, альбо картофлі. З мейсцовых прадуктаў дастаўляюцца па вольнай цане толькі масло, яйкі і мясо.

(Rigische Ztg. № 114).

ЦУРЫХ 15 гм. У Швэйцарыі, скуль даўней вывозіліся малочныя прадукты на усю Эўропу у вялікай лічбе, цяпер уведзена картачная сыстэма на сыр. Сыру на чалавека палагаецца у месяц каля 1/2 фунта. Гэта паказываець як упала продукцыя на усім сьвеце,—нават у нэйтральных краёх.

(Züricher Zeit № 223)

ВЕНА 18 гм. 1 маю з Аўстрыі на Украіну атпраўлены гэткія тавары: 33 вагоны кос і сярпоў, 7 вагон. эмальёванай бляшанай пасуды, 21 вагон с.-гаспадарскіх машынаў, 1 ваг. аконнаго шкла, 2 вагоны лямпаў і г. і.

(Voss. Zeit № 253).

ЦВІКАУ, 18 гм. Ад горада Цвікау ў нямецкі Парлямэнт выбраны патрыотычны соцыялісты Мэйер, атрымаўмы 12433 галасы. Яго праціўнік, нізалежны соцыялісты Гокерт атрымаў усяго 5036 галасоў. Раней Цвікау пасылаў у парлямэнт нізалежных соцыялістаў.

(«Yoss. Zeit.» № 253).

РОТТЭРДАМ, 18 гм. Нованазначэны з дыктаторскімі паўнамоцтвамі віцэ-кароль Ірляндзіі, лорд Фрэнч, пачаў свае урады з вялікай лічбы арэштаў. Арыштаваны у Дубліне відныя ірляндскія дзеячы-самостойнікі (sinn-fein) і нацыяналісты. Паміж іншымі арыштаваны графіня Маркевіч і пасłы у парлямэнт Дзіллон і Косгров.

(«Yoss. Zeit.» № 253).

— Подлуг вестак с Каўказу, тамака сформіраваліся дзьве аддзельныя дзержавы: паўночно-каўказская і закаўказская. Глаўныя народнасьці, Чаркесы, Кабардзінцы, Інгушы, Асеціны, Чэчэнцы і Дагестанцы—т. е. Лезгіны, Авары і др.,—усе мусульмане. Спачатку яны прабавалі вясьці працу супольна с Казакамі і урад сформіраваўся у Владікаўказе. але з'еднанне аказалося німагчымым. Пасьля гэтаго яны сформіравалі аддзельны урад у Тэмір-хан-шура. Важнейшыя народнасьці Закаўказья—Грузіны, Армяны і Татары. Урад іх, каторы знайходзіцца у Тыфлісе, складаецца з 12 міністраў.

Расійскі большэвіцкі урад протэстуе проці аддзелення Каўказу.

(«Yoss. Zeit.» № 253).

## Весткі з Расіі.

**Замест грошы**, дзякуючы выпадкам адказу прынімаць аблігацыі пазычкі свабоды, білеты казначэйства і купонаў, як паведамляюць «Ізвестія», Малая рада областнога Выканаўчаго камітэту захадняй обласьці выдала дэкрэт па якому облігацыі пазычкі вольнасьці на 100, 50 і 20 рублёў с купонамі і без іх, білеты казначэйства с купонамі ад 1 лютаго г. г. і без іх і купоны усіх дзержаўных пазычак, закладных лістоў Шляхоцкаго і Селянскаго банкаў павінны прыймацца у аплату як паперовыя грошы без усякіх вылічанняў, па номінальнай цане.

Білеты казначэйства без купонаў, срочныя 1 лютаго павінны прыймацца па номінальнай цане за вылічэннем вартасьці купонаў па іхняй цане.

Ніспоўняючыя дэкрэту карацімуцца судом Рэволюцыйнаго Трыбуналу аж да конфіскацыі усяго мення.

**У Маскве** адбыўся жыдоўскі воінскі зьезд, на якім было 25 дэлегатаў ад 15 арганізацыяў. Зьезд прыняў рад пастановаў аб помачы дэмобілізованым жыдом воінам. Абсудзіўшы пытанне аб жыдоўскіх пагромах зьезд аднаголасна прызнаў ніабходнасьць легалізацыі і узброення жыдоўскай самаабароны.

**Маскоускі** урад мэдыцынскай часьцю атрымаў весткі, што у Пензі было некольки выпадкаў халеры, дзеля чаго Пенза аб'яўляецца заражонай а губэрня нібезпечнай па халеры.

**20 маю** у Маскве адбудзецца зьезд адміністрацыі і работнікаў усіх чугунак Расіі. Зьезд арганізуецца урадам.

**У Маскве** праэктуецца стварэнне арганізацыі «Цэнтрошерсть» дзеля здавальнення у дзержаўным маштабе патрэбау воўнянай прамысловасьці. Праэкт гэты зьвязаны з другім праэктам—арганізацыі суконнай прамысловасьці у трэсты і сындыкаты пад кантролям работнікаў.

**У Казані** вялікі ніхват гарбаты. (П.Т.А.)

**У Самары**, згодна з весткамі «П.Т.А,» ад 15 гм., мясцовыя члены «Бунду» пастанавілі выйсьці с партыі і заснаваць арганізацыю «леваго Бунду».

У зьвязку з выступлннем дутаўцаў і высылкі на фронт усіх самарскіх аддзелаў рэгулярнаго войска местовы камітэт комуністычнай партыі прызваў у строй усіх здольных трымаць бронь для падтрымання парадку у Самары і ваколіцах.

Адбыўшыся у Моршанску зьезд валастных саветаў стаяў за падтрыманне савецкай улады.

**У г. Белым**, саветам нацыяналізованы прыватная прамысловасьць і гандэль.

(П.Т.А.)

**Пенза** 15 гм. Савет пастанавіў усе штрафы за п'янства і інш. праступкі і грошы канфіскаваныя у спэкулянтаў перадаць на карысьць безработных.

**Тула** 15 гм. Горад перажывае цяжкі харчовы крызыс. Падвозу мукі німа. Старшыня совдепу Кауль галава харчовай справы прыймае экстрэнныя заходы. [П.Т.А.]

**С Петрапаулоуску** на Камчатцэ тэлеграфуюць у цэнтральны «совнарком» аб крытычным палажэнні Камчаткі. Да гэтаго часу усе харчы і рэчы першай патрэбы дастаўляліся сюды першым рэйсам параходаў дабравольнаго флоту с Владзівостоку. У гэтым годзе прывозу ні было дзеля таго, што усе параходы захоплены амэрыканцамі і ангельцамі. Петрапаўлаўскі совдеп патрэбуе ніадкладнай адпраўкі з Владзівостоку параходаў тэрміновым рэйсам, бо іначэй жыхаром пагражае галодная сьмерць, а рыбнаму промыслу поўнае банкрутства.

(П.Т.А.)

## На беларускім шляху.

**Беларускае жыцце у Маскве.**

Ні можна сказаць, каб усе жыцце нашых землякоу апы-

